**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 29 (902) 20 ліпеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





18 ліпеня ў Глыбокім адкрыўся пяты, юбілейны Вішнёвы фестываль. На здымку: Алёна Дабравольская, актыўны ўдзельнік усіх фестываляў, з дачкой Вікторыяй. *Фота Змітра Лупача.*



ISSN 2077-8023



Рэклама ў газеце «ВГ», мтс 8(029) 813-99-99

**Увага!!!**

Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.
**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная** – 636682 – кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.

## Аршанскі раён

# Цягне на малую радзіму

■ Станіслаў Раманчук.

**Апошнім часам главу Беларусі пры ўсёй яго занятасці дзяржаўнымі справамі ўсё часцей цягне на ягоную малую радзіму.**

Чарговая такая паездка ў гарпасёлак Копысь Аршанскага раёна перад фестывалем "Александрыя збірае сяброў" стала асабліва адметнай, бо на ёй А. Лукашэнка агучыў публічна новую канцэпцыю далейшага развіцця буйных населеных пунктаў глыбінкі. Кіраўнік дзяржавы агледзеў гэта мястэчка, у якое ўклалі з дзяржказны мільёны рублёў, і яго стала проста не пазнаць. На зайздрасць усім беларусам у Копысі хутка пабудавалі 20 км новых асфальтаваных вуліц і завулкаў, дарог з гравійным пакрыццём тут проста не засталося. Шмат сродкаў было ўкладзена ў капітальны рамонт і мадэрнізацыю мясцовай бальніцы з паліклінікай і лабараторыяй. Прэзідэнт таксама зайшоў сюды, пагутарыў са стацыянарнымі хворымі, наведаў палату, у якой ён амаль 63 гады назад нарадзіўся. Глава краіны быў задаволены тым, што зрабілі тут па ягоным даручэнні. За нейкіх паўгода да радасці мясцовых жыхароў замянілі інжынерна-транспартную інфраструктуру, добраўпарадкавалі набережную левага берага Дняпра і аднавілі Пятроўскі вал з зонамі адпачынку і аглядавымі пляцоўкамі. Вельмі прыгожа стала выглядаць і сярэдняя школа, дзе працягваецца мадэрнізацыя дзетсада. У гарпасёлку з'явіліся і 6 новых спартыўных пляцовак, абнавіўся Цэнтр народнай творчасці і рамёстваў. Нядрэнныя перспектывы чакае мясцовы малочны заводзік, бо плануюць стварыць буйны аграхолдынг "Купалаўскае" з перапрацоўчым цэнтрам тут. Дарэчы, главам усіх абласцей краіны ўжо даручылі ствараць штогод па два такія пасёлкі ў сваіх рэгіёнах.

## Пастаўскі раён

# На тое мы і людзі

■ Кастусь Александровіч

**У паўсядзённым жыцці людзей здараюцца час ад часу такія сітуацыі, калі без чалавечай салідарнасці і падтрымкі проста не абысціся.**

Вось і ў сям'і Рамановічаў, жыхароў Пастаў радасць ад нараджэння зімой малодшай дачушкі змянілася неўзабаве глыбокай трывогай. Урачы ў малой выявілі рэдкую хваробу спіны, а нейрахірургі паведамілі, што ёй спатрэбіцца складаная рызыкоўная аперацыя на спінным мозгу. Бачачы, як пакуль добра развівалася іх дзіця, бацькі вырашылі не здавацца і звярнуліся за кансультацыяй да аднаго з лепшых сусветных спецыялістаў у гэтай сферы, прафесара Шымона Рохкінда з Ізраіля. Высакакласны нейрахірург вывучыў дакументы, запісы МРТ дзяўчынкі і згадзіўся ёй дапамагчы, правесці аперацыю, бо ёсць шанцы на станоўчы вынік. Праўда, сума затрат на лячэнне і абследванне ў замежнай клініцы, пералёт і знаходжанне там выйшла даволі адчувальная, звыш 60 тысяч долараў. Аднак падзеі разгортваліся нібыта ў добрай казцы. Даведаўшыся пра праблемы ў сям'і сваёй работніцы, дырэкцыя Пастаўскага малочнага завода аплаціла большую частку кошту медыцынскіх паслуг. Нейкую частку затрат пакрыў дабрачынны фонд "Шанц". Сродкі на пералёт у Ізраіль і назад, на харчаванне і іншыя неабходныя расходы ў суме 4 тысяч долараў сабралі суседзі, сябры, знаёмыя, калегі па працы, калектыў прыватнага прадпрыемства "Проміс-тэхна", дзе працуе муж. Асноўныя трывогі за лёс малышкі наперадзе, бо аперацыю прызначылі напрыканцы жніўня. Аднак на душы ў гэтай сям'і хораша ад удзячнасці многім добрым людзям, якія чула адгукнуліся на бяццам чужую чалавечую боль і дапамаглі ёй. Без такой вось спагады блізкім па-іншаму мог сласціся лёс Жэнечкі, у якой з Боскай дапамогай можа пачацца нармальнае і шчаслівае дзяцінства.

## Гарадоцкі раён

# Норавы нашых дзён

■ Чэслаў Якубовіч.

**Падмануць, абакрасці альбо абрабаваць – на такія агідныя ўчынкі ідуць асобныя суайчыннікі, каб займець лёгкія грошы.**

У вёсцы Пруднікі Гарадоцкага раёна патрапіла ў непрыемную гісторыю 83-гадовая пенсіянерка, калі пусціла ў хату незнаёмага мужчыну. Той патлумачыў, што хоча прадаць тэрмінова яйкі з баранінай, бо яму вельмі спатрэбіліся наяўныя грошы. Жанчына яму паверыла, заплаціла 20 рублёў, але на наступны дзень няпрошаны госць зноў туды вярнуўся і папрасіў перагледзіць у халадзільніку яго пакет з мясам, дзе быццам забыўся крыху сваіх грошай. На самой справе гэта патрэбна было махляру, каб абакрасці старую, бо ён заўважыў, дзе яна захоўвае сваю пенсію. Злодзей забраў 80 рублёў бабулі, а калі яна паспрабавала спыніць зламысніка, піхнуў жанчыну і кінуўся ўцякаць. Праўда, рабаўніка змог дагнаць і затрымаць зяць пацярпелай, але яна пасля перажытага стрэсу патрапіла ў бальніцу. На яшчэ больш страшны ўчынак рашыўся летась 34-гадовы жыхар райцэнтра. Ён забіў у Гарадку віцебскага бізнесмена, які прыехаў дамаўляцца тут купіць дом. Мярзотнік вывез і схаваў труп у Шумілінскім раёне, але аператыўнікі раскрылі гэта злачынства, суд пакараў забойцу 22 гадамі турмы.

## Аб самым надзённым

# БЕЛАРУСЬ ЗАРУЧЫЛАСЯ ПАДТРЫМКАЙ ЕС І ЗША НА ПЕРАМОВАХ АБ УСТУПЛЕННІ Ў СУСВЕТНУЮ ГАНДЛЁВУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Мы ж сярод нашых партнёраў у ЕАЭС адзіныя, хто дагэтуль не прадстаўлены ў СГА. Уступленне туды мае свае плюсы і мінусы, але станоўчых дывідэнтаў усё ж значна болей. Тым болей у гэтым годзе беларуская эканоміка пакрыху пачала выходзіць з зацяжной рэцэсіі.**

Пасля даволі паспяховага праведзенай у беларускай сталіцы летняй сесіі ПА АБСЕ пазіцыі нашай краіны на міжнароднай арэне, відавочна, яшчэ болей умацаваліся. Беларускі лідар адразу ж не ўпусціў такі момант і паабяцаў акрамя плённых сувязей з асноўным саюзнікам Расіяй таксама сябраваць і з краінамі Захаду. Аб гэтым ім было заяўлена на нядаўняй нарадзе па прыярытэтах знешняй палітыкі Беларусі. А. Лукашэнка прама заявіў, што нам " принципиально важно в равной степени развивать сотрудничество с Востоком и Западом, не делая выбора между ними. Налаживать контакты нужно везде, чтобы нас знали, понимали и в итоге принимали. Только тогда с уверенностью можно рассчитывать на установление взаимовыгодных отношений".

Сапраўды, зараз з тымі ж рускімі, якіх усё болей прэсуюць у свеце за агрэсіўную палітыку, трэба заўсёды быць пільнымі, памятаючы аб тым, што яны зрабілі сілай супраць украінцаў, а перад гэтым, як расчлянілі Грузію. На расійскіх прасторах робяцца дзіўныя рэчы, у той жа Чачні, яўна не кантралюемай Крамлём, падцвярджаюцца дадзеныя аб масавых пакараннях смерцю. Быццам нармалізаваліся беларуска-расійскія адносіны, аднак той жа гіперактыўны Рассельгаснагляд ніяк не супакоіцца, паставіў на ўзмоцнены кантроль яшчэ 11 беларускіх пардпрыемстваў. Сярод іх незразумела чаму апынулася і адно з лепшых "Савушкаў прадукт", хоць ягоная прадукцыя сертыфікавана і пачала прадавацца ў ЕС.

Між тым, той Еўрасаюз пасля Расіі для Беларусі другі па значэнні гандлёвы партнёр. Нагадаем, што сёлета мы ў першым квартале года прадалі на еўрапейскія рынкі тавараў на 2,9 млрд. долараў, што на 9,4 % болей, чым у аналагічным перыядзе 2016 года. Кіраўнік краіны прызнае, што на нашым кантыненце найбольш плацёжаздольны і тэхналагічна прасунуты менавіта гэты рынак. А. Лукашэнка загадаў літаральна ўгрызацца на рынак ЕС, бо санкцыі з беларускіх прадпрыемстваў еўрапейцы знялі і квоты на пастаўкі беларускага тэкстылю ў Еўропу адмянілі.

Беларускага лідара падтрымаў у гэтым і глава знешнепалітычнага ведамства Уладзімір Макей. Па яго словах, нашай краіне ўдалося дабіцца падтрымкі па пытанні ўступлення ў СГА з боку ЕС і ЗША. Перад гэтым былі завершаны перамовы з яшчэ 12 краінамі свету і працягваецца кансультацыі з 13 дзяржавамі, членамі гэтай міжнароднай арганізацыі. Дзеля справядлівасці, падобны працэс адчувальна зацягнуўся, бо перамовы пачаліся яшчэ ў 1993 годзе, калі малады тады дэпутат парламента А. Лукашэнка толькі набіраў сваю вялікую папулярнасць сярод насельніцтва і пазней трыўмфальна быў абраны першым і нязменным пакуль беларускім прэзідэнтам.

Мы ж сярод нашых партнёраў у ЕАЭС адзіныя, хто дагэтуль не прадстаўлены ў СГА. Уступленне туды мае свае плюсы і мінусы, але станоўчых дывідэнтаў усё ж значна болей. Тым болей у гэтым годзе беларуская эканоміка пакрыху пачала выходзіць з зацяжной рэцэсіі. У студзені-маі ВУП краіны вырас пасля перапынку на 0,9 %, болей выпусцілі прамысловай прадукцыі пры нізкай інфляцыі, а баланс знешняга гандлю стаў станоўчым.

Уступленне ў СГА для нас найбольш важна таму, што краіна бярэ на сябе абавязацельствы прытрымлівацца сусветных базавых эканамічных каштоўнасцей, найперш рынкавай эканомікі.

Не сакрэт, на такія патрэбныя рэформы ў нас ісці не рашаюцца, пастаянна іх адкладваюць, робяць палавінчатыя крокі. Пакуль перамовы аб членстве беларусаў у СГА працягваюцца, з партнёрамі трэба дамовіцца аб іх доступе на беларускі рынак тавараў і паслуг, узгадніць меры санітарнага і фітасанітарнага кантролю і нормы абароны інтэлектуальнай уласнасці. Для замежных нашых партнёраў застаюцца пытанні наконт тэхнічных і нетарыфных абмежаванняў у гандлі, статусу дзяржаўных айчынных прадпрыемстваў, каб ведаць, яны самі альбо дзяржаўныя чыноўнікі будуць вырашаць, па якіх правілах гандляваць з астатнім светам.

Таксама дзяржавы-члены СГА патрабуюць, каб саступкі па імпартных пошлінах, якія прыме Беларусь, былі не меншымі, чым прынялі і карыстаюцца Расія з Казахстанам. Можна толькі пагадзіцца з экспертамі ў гэтай сферы, што ў той сітуацыі, у якой знаходзіцца зараз наша краіна, Беларусь павінна пачынаць нарэшце структурныя рэформы. Інакш у нас не будзе шанцаў на рост дабрабыту сваіх грамадзян, на стварэнне новых працоўных месцаў. Без уступлення ў сусветную гандлёвую арганізацыю мы прайграем канкурэнцыю з іншымі дзяржавамі свету і можам безнадзейна адстаць ад іх. Апошнім часам у СГА былі прыняты 36 новых краін-членаў і толькі ад гэтага выйгралі іх народы.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 20.07.17 | | | | Пятніца 21.07.17 | | | | Субота 22.07.17 | | | | Нядзеля 23.07.17 | | | | Пн.24.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +16 | +19 | +17 | +13 | +17 | +21 | +19 | +15 | +18 | +22 | +20 | +16 | +19 | +23 | +21 | +17 | +19 | +22 |
| Ціск | 748 | 748 | 746 | 745 | 745 | 745 | 745 | 746 | 747 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 746 | 745 | 741 | 740 | 740 |
| Вецер м/сек | 1 Пд | 0 ШТЛ | 1 З | 3 Пн-У | 3 У | 3 У | 2 Пн-У | 3 Пн-У | 4 У | 3 Пд-У | 3 У | 5 У | 4 Пд-У | 3 Пд-У | 5 Пд-У | 7 У | 8 Пд-У | 5 Пд-З | 7 Пд-З |
| Вільготнасць | 95 | 86 | 65 | 74 | 95 | 83 | 61 | 74 | 86 | 76 | 62 | 63 | 75 | 74 | 55 | 57 | 87 | 97 | 68 |

## Дзень за днём

**Расія прапанавала Беларусі ўвесці міратворчы кантынгент у Сірыю. У Беларусі ўвялі адраснае субсідзіраванне пры будаўніцтве жылля. Знешні дзяржаўны доўг краіны вырас яшчэ на 277 млн. USD. У 2 разы вырасла колькасць спраў аб банкрутстве. Прадоўжыўся рост праблемных актываў айчынных банкаў. Расія захавала абмежаванні на пастаўкі ежы з 25 беларускіх прадпрыемстваў. Група "Сбербанк РФ" набыла за 50 млн. USD гатэль ля цырка ў Мінску. Па 100 балаў атрымалі на ЦТ 314 абітурыентаў. Праз дарогу ад музея Вялікай Айчыннай вайны пабудуюць новы Гістарычны музей.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША**. Пасля запуску КНДР новай межкантынентальнай ракеты ЗША прыгразілі адыёзнай краіне новымі жорсткімі санкцыямі, правялі сумесна з Карэяй свае ракетныя стрэльбы.

**Польшча.** Прэзідэнт ЗША Д. Трамп пасля сустрэчы ў Варшаве з польскім калегам А. Дуда абвінавацІў Расію, што яна дэстабілізуе сітуацыю ва Усходняй Еўропе.

**Германія.** У кулуарах саміта G20 у Гамбургу ў вузкім коле прайшла першая сустрэча Д. Трампа з У. Пуціным, на ёй лідары абмеркавалі сітуацыю ва Украіне і ў Сірыі.

**Францыя.** Прэм'ер-міністр Э. Філіпп аб'явіў аб маштабных мерах эканоміі з мэтай утрымаць у 2017 годзе дэфіцыт дзяржбюджэту ў рамках устаноўленых ЕС 3 %.

**Галандыя.** Рашэнне Аб'яднанай следчай групы пачаць суд па справе аб збіцці ля Данецка лайнера Boeing-777 і гібелі на борце 298 чалавек падтрымалі ЗША.

**Германія.** Спецслужбы краіны папярэдзілі аб небяспецы новых расійскіх кібератак напярэдадні выбараў у бундэстаг, супраць партый, асобных палітыкаў, МЗС, Мінфіна.

**Расія.** Глава ўрада РФ Д. Мядзведзеў падпісаў распараджэнне аб працягу забароны на ўвоз прадуктаў харчавання, выробленых у ЕС, ЗША, Украіне, Канадзе, Аўстраліі і іншых.

**Украіна.** Вядомы журналіст Д. Гардон заявіў, што сёлета вайна ў Данбасе можа закончыцца, бо Пуцін хоча выйсці з гэтага канфлікту з мінімальнымі стратамі для сябе.

**Кіпр.** Шматгадзінныя консультацыі аб аб'яднані вострава завяршыліся безвынікова. Турцыя захацела захаваць свой воінскі кантынгент, а грэкі з кіпрыётамі былі супраць.

**Венесуэла.** Некалькі дзясяткаў чалавек, прыхільнікаў прэзідэнта-папуліста М. Мадуры, уварваліся з палкамі ў парламент і паранілі шэраг дэпутатаў і журналістаў.

**Швецыя.** Шведскі аўтагігант "Volvo", які купіла кітайская кампанія "Geely", аб'явіў аб пераходзе на выпуск 5 новых мадэляў электрамабіляў і машын з аўтапілотам.

**Расія.** Былы разведчык, пісьменнік В. Сувораў заявіў, што РФ чакае распад, бо Дальні Усход поўнасцю кітайскі, яны ўжо і ў Забайкаллі, адтуль больш нікуды не пойдуць.

**ЗША.** Амерыканскія анколагі з нямецкімі і аўстрыйскімі калегамі паспяхова правялі выпрабаванні вакцыны супраць хвароб, звязаных з ракам скуры.

**Кітай.** Больш 11 млн. чалавек пацярпелі ў выніку моцных праліўных дажджоў на паўднёвым захадзе краіны, загінула каля 60 чалавек з-за апоўзняў глебы і паводкі.

**ЗША.** Шматразовы чэмпіён свету па шахматах, расійскі апазіцыянер Г. Каспараў аб'явіў аб вяртанні ў вялікі спорт, ён жыве пастаянна ў Нью-Йорку, мае дом у Харватыі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасля перамоў у Маскве, як заявіў палітолаг П. Усаў, стала відавочна, што кіраўніцтва Расіі пакуль вырашыла ўстрымацца ад масіраванага ціску на Беларусь.

**Брэст.** На чыгуначным пункце пропуску ля граніцы з Польшчай пагранічнікі знялі з цягніка "Брэст-Тэрэспаль" адразу 8 нелегалаў з Нігерыі, іх чакае дэпартацыя з Беларусі.

**Мінск.** Ваенны эксперт А. Алесін пацвердзіў, што калі Беларусь накіруе свае міратворчыя сілы ў Сірыю, то, хутчэй усяго, гэта будзе спецназ унутраных войск МУС, кантрактнікі.

**Астравец.** А. Лукашэнка заявіў, што Беларусь пабудуе ля раённага цэнтра самую бяспечную атамную станцыю, зноў прапанаваў Літве сумесна закончыць будаўніцтва АЭС і эксплуатаваць яе далей.

**Мінск.** Мы не атрымаем моцнай беларускай арміі, як напярэдадзіў палітолаг А. Класкоўскі, пакуль у краіне не будзе моцнай эканомікі, а яна сёння застаецца ў многім саўковай.

**Бяроза.** Рассельгаснагляд выключыў з "чорнага спіса" прадукцыю мясцовага сыраробнага камбіната, але паставіў на асаблівы кантроль мяса птушкі з гаспадаркі А. Лукашэнкі.

**Мінск.** Усе 6 членаў беларускай дэлегацыі на сесіі ПА АБСЕ ў Мінску не падтрымалі Расію па ўкраінскім пытанні і прагаласавалі за разгляд гэтага дакумента.

**Гродна.** Суд пакараў 67-гадовага расіяніна 3,5 гадамі калоніі ўзмоцненага рэжыму за нелегальны правоз праз граніцу з Польшчай кнігі "Майн кампф", пісталета з 46 патронамі.

**Брэст.** У бальніцы памёр ад пнеўманіі 18-гадовы салдат-дэсантнік А. Апякун, прызваны з Гродна, напярэдадні ў спёку пасля бегу ён пакупаўся ў халоднай вадзе і захварэў.

**Мінск.** Калі ў Беларусі прадоўжыцца невялікі эканамічны рост, як спрагназаваў эканаміст А. Чубрык, то да канцы года зможам выйсці на сярэднюю зарплату 456 долараў, у наступным – 481.

**Магілёў.** З закрытым пераломам паяснічнага пазванка пацярпела ў бальніцу жанчына, яна ўпала, калі гарадскі аўтобус пераязджаў праз "ляжачага паліцэйскага" на дарозе.

**Мінск**. Новы глава вобласці А. Ісачэнка не пагаджзўся з прэзідэнтам і заявіў, што не будзе кардынальна змяняць кадры на месцах, бо на Міншчыне шмат эфектыўных упраўленцаў.

**Гродна.** З прэзідэнцкага Фонда па падтрымцы культуры і мастацтва выдзелілі сродкі на рэстаўрацыю і капрамонт найстаражытнай Каложскай царквы і Крэўскага замка.

**Мінск.** Кампазітар Э. Ханок перадумаў і ўсё ж рашыўся падаць у суд на спявакоў Я. Паплаўскую і А. Ярмоленка аб парушэнні ягоных аўтарскіх правоў.

**Салігорск.** Лідар чэмпіянату Беларусі па футболе ФК "Шахцёр" зноў бясслаўна вылецеў з розыгрышу Лігі Еўропы, саступіўшы ў 1-м раўндзе чацвёртай камандзе Літвы "Судува".

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** А. Лукашэнка падпісаў шэраг нарматыўных дакументаў па развіцці раёна, набыцці жылля ў гарадскім пасёлку Копысь і аб пачатку мадэрнізацыі інструментальнага завода.

**Верхнядзвінск.** Услед за залатым медалём выставы "Харчэкспа" ў Маскве сыр "Маасдамер" мясцовага масласырзавода атрымаў званне "Чэмпіён смаку" ў Беларусі.

**Мёры.** Пасля наведвання Расіі раён заключыў пагадненні аб супрацоўніцтве з Апочкай Пскоўскай вобласці і Падпарожскім муніцыпальным раёнам Ленінградскай вобласці.

**Ушачы.** Дэлегацыя Томашуўскага павета Польшчы наведала мемарыяльны комплекс "Прарыў", ФАК, санаторый, іншыя аб'екты, запрасіла беларусаў на свае "Дажынкі".

**Гарадок.** Абласны суд пакараў 34-гадовага жыхара раённага цэнтра за забойства летась восенню віцебскага бізнесмена 22 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці.

**Лепель.** Пасля рэканструкцыі помніка на брацкіх магілках у райцэнтры ўрачыста перазахавалі астанкі ўстаноўленых воінаў-разведчыкаў, загінуўшых восенню 1941 года.

**Браслаў.** Позна ноччу падчас пажару ў райцэнтры супрацоўнікі райаддзела МНС выратавалі ад гібелі 88-гадовую гаспадыню дома і сястру яе мужа такога ж узросту.

**Дуброўна.** Ноччу ў душавой інтэрната сельскагаспадарчага ліцэя выбухнуў водагрэйны кацёл, ніхто з 38 пражываючых не пацярпеў, людзі самастойна пакінулі памяшканне.

**Лепель.** Побач з гарадскім пляжам у лесапаласе трагічна загінуў 11-гадовы хлопчык, які прыехаў з Мінска адпачыць да бабулі і гуляў з сябрамі ў яме, якую засыпала пяском.

**Дзісна.** Пагранічнікі ля латвійскай граніцы затрымалі траіх кантрабандыстаў, жыхароў Смалявіч, Оршы і Полацка, на дэльтапланах яны хацелі перапраавіць цыгарэты латышам.

**Полацк.** Раніцай каля магазіна "Дзіаніс" знайшлі падазроную каробку з правадамі, міліцыя ачапіла тэрыторыю, сапёры знайшлі старую савецкую гульню "валейбол".

**Глыбокае.** Каля дзвюх гадзін ночы па невядомай пакуль прычыне загарэўся жылы дом у вёсцы Псуя, у выніку пажару загінуў 55-гадовы мужчына, гаспадар памяшкання.

**Докшыцы.** На падпітку жыхар Мінска, пазбаўлены судом правоў, на дарозе ля Бягомля разагнаўся да хуткасці 160 км/г, патрапіў у ДТЗ і забіў свайго брата-пасажыра.

**Паставы.** Невядомыя злодзеі абакралі зернесушыльны комплекс ААТ "Дунілавічы-агра", забралі адтуль 684 метры меднага кабелю і электрарухавік магутнасцю 5,5 кВт.

**Віцебск.** Падчас Міжнароднага фестывалю "Славянскі базар" адкрылі 3 інфармацыйныя цэнтры для турыстаў, пачаў курсіраваць аўтобус да сядзібы І. Рэпіна "Здраўнёва".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Чаму на Шаркоўшчыне так шмат таленавітых людзей?

**У нядзелю, 16 ліпеня, у Радзюкоўскім Доме культуры адбыліся чарговыя «Радзюкоўскія сустрэчы». Адбыліся яны па ініцыятыве паэткі Людмілы Ардынскай, якая жыве тут, у Радзюках.**

**■ Зміцер Лупач**

Тут сабраліся таленавітыя людзі з усяго Шаркоўшчынскага раёна. І не толькі! Былі творчыя людзі з Браслава, Мёраў, Падсвілля, Глыбокага...

Пра Шаркоўшчынскі раён звычайна ўспамінаюць, што ён самы бедны ў Беларусі. Па зарплаце можа і так, але што датычыцць талентаў, то тут ён можа быць адным з першых.

Вершы тут пішуць не толькі людзі на пенсіі, але і інжынеры, і нават кіраўнікі прадпрыемстваў.

Мы пацікавіліся ў прадстаўнікоў раёна, адкуль на іх зямлі столькі талентаў.

**Ірына Лаўрыновіч:**



– Шаркаўшчына... Можа ў гэтым слове што сабрана. Шаркаўшчына, Шаркоўшчына... Мне падаецца гэта такая гучная назва. А яшчэ трэба падзякаваць такім арганізатарам як Ада Райчонак і Людміла Ардынская. Яны збіраюць людзей. Дзякуючы ім і сам неяк стараешся нешта стварыць, нешта распавесці. Вось і з'язджаюцца таму людзі, хто нешта можа. І хоча.

**Ада Райчонак:**



– Я лічу, што гэта Богам так накавана, што на гэтай зямлі столькі таленавітых людзей. Але да гэтага павінны быць рухавікі, якія б рухалі гэту справу. І адным з такіх рухавікоў з'яўляецца Людміла Ардынская, якая змагла сабраць тут аднадумцаў. Вось і на сённяшнім мерапрыемстве амаль цалкам гучала беларуская мова. Вось маладым трэба перахопліваць ад нас гэту эстафету.

**Валянціна Абрамава:**



- Наша беларуская зямля багатая на тэленавітых людзей і наша шаркоўшчынская зямля тут не выключэнне. Вось і ў нашай вёсцы, у Радзюках, я ведаю траіх чалавек, якія пітшуць і вершы, і прозу. Гэта Ларыса Шпак, Людміла Ардынская, і Мікалай Грабянёк.

**Віктар Лагун:**



– Зямля наша родзіць такіх людзей. Я вось па спецыяльнасці інжынер-электрык, нават не ведаю, чаму мне так захацелася навучыцца пісаць вершы. Гэта ж незвычайна цяжка. Я думаў, як гэта я магу напісаць верш?! Я браўся за гэта і адкладваў, потым зноў браўся і адкладваў. Я мучыўся, але пісаў. І два гады таму, калі я зразумеў, што навучыўся пісаць на дабрым узроўні, мне гэта справа стала нецікавай. Зараз я займаюся навукай, вывучаю электратэхніку. А вершы ў мяне – гэта хобі. І для мяне цікавыя тыя людзі, хто займаецца творчасцю. У нас душы роднасныя: я іх адчуваю, яны мяне адчуваюць, мы лёгка знаходзім з імі агульную мову. З імі мне заўсёды цікава

**Надзея Вайцюль:**



– Я думаю, таленавітых людзей усюды шмат, не толькі на шаркоўшчынскай зямлі. Можа ў нас нашы рэкі ўплываюць. І Дзісёнка, і Бярозаўка, і Янка...

**Людміла Ардынская:**



– Нашы людзі па-асобаму любяць сваю родную зямлю. І Беларусь. І павінны быць людзі натхнёныя, сваёй зямлёй, прыродай, сябрамі. Бо я думаю, каб не было сяброў, не было б і натхнення.

# Падатковая спытае, адкуль грошы, калі выдаткі перавысілі даходы на 3000 даляраў

**Ад 15 ліпеня набыла сілу пастанова Савету міністраў, згодна з якой падатковы орган можа запатрабаваць дэкларацыю, калі мае інфармацыю ад КДБ, МУС, Камітэту дзяржкантролю, пракуратуры ці следчых аб перавышэнні кошту ўласнасці фізічнай асобы, і расходаў над даходамі, атрыманымі з законных крыніцаў.**

Сума «перавышэння» — не менш як 250 базавых велічынь (5750 рублёў — каля 3000 даляраў на момант публікацыі). Такое «перавышэнне» роўнае 7,2 сярэдняга заробку беларуса паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэту.

Патрабаванне аб дэкларацыі (за мінулы каляндарны год або мінулыя месяцы бягучага года) будуць даваць пад подпіс «падазраванаму». Калі той цягам 30 дзён з атрымання патрабавання не прадставіць дэкларацыю, на суму перавышэння (падлічанага паводле ўласных звестак падаткавікоў) налічаць падаходны падатак (па змаўчанні 13%).

Прадстаўленне дэкларацыі можа быць перанесенае на не больш як тры месяцы паводле рашэння начальнікаў інспекцыяў, міністра па падатках і зборах або яго намеснікаў. Прычынамі могуць быць, напрыклад, часовая непрацаздольнасць або знаходжанне за межамі Беларусі.

У дэкларацыі не трэба пазначаць асабістыя рэчы цаной да 2000 базавых велічыняў (46 тысяч рублёў або 23,4 тысячы даляраў). Але паводле новай рэдакцыі закону дэкларавать трэба нават маёмасць, што яшчэ будуецца, машынамесцы ў паркінгах жылых дамоў і долі ў статутных фондах на суму больш за 2000 базавых велічыняў.

*Паводле svaboda.org*

■ Сяржук Серабро

# У Глыбоцкім раёне адбыўся мор рыбы

**Некалькі дзясяткаў мёртвых рыб былі выяўленыя 14 ліпеня ў рацэ Дабрылаўка каля вёскі Мікуліна Глыбоцкага раёна, крыніца забруджвання пакуль не знойдзена.**

Спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра аналітычнага кантролю ў галіне аховы навакольнага асяроддзя і раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя правялі абследаванне ракі. Было сабрана 70 загінулых асобін рыб розных відаў, але бачнага забруджвання на паверхні вады не выявілі. Эксперты ўзялі пробы вады з Дабрылаўкі для правядзення аналізаў і вызначэння прычыны гібелі рыбы, паведамляе



прэс-служба МНС. Як ужо згадвалі розныя СМІ, у чэрвені 2011 года ў Дабрылаўцы таксама адбыўся мор рыбы, але ў значна большых маштабах: тады на ўчастку ракі працягласцю 5 кіламетраў выявілі 674 загінулыя асобіны. У той раз меркаванай прычынай гібелі рыбы назвалі скід неачышчаных водаў і адкідаў вытворчасці сыру праз 4-ты каналізацыйны калодзеж ачышчальных збудаванняў цэха па перапрацоўцы малака ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка» ў вёсцы Запруддзе Глыбоцкага раёна. У 2012 годзе Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці прыняў рашэнне аб спагнанні з ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка» кампенсацыі за нанесеную прыродзе шкоду ў памеры 63 661 500 неданамінаваных рублёў.

# У Пастаўскім раёне затрымалі групу нелегалаў з Пакістана з расейскім правадніком

**Шасцёра грамадзян Пакістана былі затрыманыя 9 ліпеня ў 500 метрах ад мяжы з Літвой у Пастаўскім раёне.**

Аб падазроных іншаземцах ў памежную камендатуру «Паставы» паведаміў мясцовы жыхар. Ва ўказанае месца накіравалі трывожную групу, якая пры дапамозе службовай сабакі адшукала і затрымала нелегалаў. У шасцярых мужчын з сабой не было дакументаў, памежнікам яны назваліся грамадзянамі Пакістана. У якасці правадыра іх суправаджаў расеец. Пакістанцы прызналіся, што хацелі перайсці мяжу, каб атрымаць статус бежанцаў у ЕС. Пасля разбору ўсе затрыманыя былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці па частцы 1 артыкула 23.30 (парушэнне пагранічнага рэжыму), частцы 1 артыкула 23.55 (парушэнне правілаў знаходжання), артыкулы 23.29 (замах на незаконнае перасячэнне дзяржмяжы) КоАП. Яны атрымалі папярэджанне з дэпартацыяй з Беларусі з забаронай уезду тэрмінам на 5 гадоў. Акрамя таго, у дачыненні да правадыра з Расеі, праводзіцца даследчая праверка: калі будзе прызнана, што ён удзельнічаў у арганізацыі незаконнай транзітнай міграцыі яму пагражае крымінальная справа паводле артыкула 371-1 КК, якая пагражае пазбаўленнем волі на тэрмін да сямі гадоў, паведамляе прэс-служба ДПК.




*НН**В.**

# Беларуская эканоміка вярнулася да росту

**Белстатам зроблена першая ацэнка валавога ўнутранага прадукту (ВУП) за студзень-чэрвень 2017 года. Аб'ём ВУП у бягучых цэнах склаў 47,3 млрд рублёў, або ў супастаўных цэнах вырас на 1% да ўзроўню першага паўгоддзя 2016 года. Індэкс-дэфлятар ВУП склаў 107%.**

Паводле звестак Белстата, аб'ём прамысловай вытворчасці за студзень-чэрвень вырас на 6,1%, да 43,3 млрд рублёў. Аб'ём сельгасвытворчасці скараціўся на 0,8%, да 5,3 млрд рублёў.

Улады Беларусі спадзяюцца па выніках 2017 года на прырост беларускай эканомікі на 1,7%. Міжнародныя фінансавыя інстытуты ў пачатку года прадракалі зніжэнне ВУП Беларусі на 0,5-1,5%.

***nn.by***

# Здаваць у арэнду рыбалоўныя ўгоддзі можна будзе толькі з дазволу Лукашэнкі

**У Беларусі прынятыя меры для рацыянальнага выкарыстання рыбалоўных угоддзяў. Адпаведны ўказ № 247 Аляксандр Лукашэнка падпісаў 11 ліпеня, паведамілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.**

Дакумент вызначае парадак перадачы ў арэнду рыбалоўных угоддзяў (азёры, натуральныя вадаёмы) і зямельных участкаў па ўзгадненні з кіраўніком Беларусі. Акрамя таго, укараняецца комплексная схема размяшчэння паверхневых водных аб'ектаў (сажалкі і абводненыя кар'еры), прыдатных для вядзення рыбаводства, на падставе якой мясцовыя Саветы дэпутатаў будуць перадаваць іх у арэнду.

Указ дасць магчымасць рацыянальна выкарыстоўваць рыбалоўныя ўгоддзі і зямельныя ўчасткі, неабходныя для вядзення рыбалоўнай гаспадаркі, а таксама павысіць эфектыўнасць выкарыстання сажалак і абводненых кар'ераў.

Для рэалізацыі права насельніцтва рэспублікі на бясплатнае аматарскае рыбалоўства дакументам прадугледжваецца не перадаваць у арэнду ўчасткі вадацёкаў (рэкі, ручаі, каналы).

***nn.by***

# Расквітнела тавалга – зёлка ад сарака хваробаў!

**Штогод у свеце рэалізуецца да 40 000 тон аспірыну. Многія схільныя лічыць аспірын бясшкодным для арганізма чалавека. Аднак, не ўсе ўрачы схільныя верыць у такія высновы.**

Прыродны аспірын расце ледзьве не ў кожнага пад домам і ў вялікай колькасці! Праўда, перадусім, у вёсках – ля меліярацыйных каналаў, ля рэчак, ручаёў, сажалак, на балотах, агулам каждучы – на вільготных месцах.

Гэта – тавалга, інакш – лабазнік (беларуская назва – вятроўнік). Тавалгу, бадай, не зблытаеш з якой-небудзь іншай раслінай! Прыгожыя буйныя суквецці светла-жоўтага колеру, ад якіх, здалёк, адчуваецца яўна выражаны мядовы водар!

Менавіта тавалга здольная вырашыць праблемы, створаныя аспірынам, пакольку акрамя саліцына ў ёй прысутнічаюць прыродныя буферныя рэчывы, нейтралізуюць пабочныя эфекты.

Сёння суквецці і лісце тавалгі можна сабраць, засушыць, і піць зімой чай, які пахне мёдам.



Якія карысныя ўласцівасці тавалгі? Як прыродны аспірын – разрэджвае кроў. Дапамагае пры: псарыязе, сардэчных ацёках, кішэчных і страўнікавых паліпах, герпесе, бясплоднасці, гепатыце, захворваннях страўніка, нырак, мачавога пухіра, кішэчнай атаніі, ангіне, рэспіраторных захворваннях, грыпе, бранхіяльнай астме, анкалагічных захворваннях, пнеўманіі, бранхіце.

Тавалга – адзін з інгрэдыентаў т.зв. "манастырскага чая", які прапануюць людзям, што пакутуюць на дыябет 2-га тыпу. Аднак і чай з адной тавалгі дапагае ў зніжэнні паказнікаў цукру ў крыві.

Мы не ставім мэтай апісваць тут усе рэцэпты ад хваробаў пры дапамозе тавалгі. Ёсць на тое адмысловая літаратура. Мы, перадусім, даводзім да ведама для тых, хто не ведаў і не падазраваў, што аптэка можа быць і за Вашым плотам. І сёння – самы час, калі тавалгу можна назапасіць на зіму.

*Падрыхтаваў Ул. Скрабатун.*

# Мільярдэр і калабарант з Шаркоўшчыны

**Мендэль Школьнікаў, адзін з найбагацейшых людзей у акупаванай Францыі, зарабіў мільярды дзякуючы супрацы з нацыстамі. А нарадзіўся ён у Шаркоўшчыне ў 1895 годзе.**

Сам Школьнікаў казаў, што яго бацька быў гандляром тканінай, які страціў усё пасля рэвалюцыі.

Але да 1917 года бацькавым бізнесам займаўся і сам Мендэль — ён пастаўляў тканіну для царскай арміі.

Пасля рэвалюцыі разам з маладой жонкай Школьнікаў жыве ў Літве, пасля ў Польшчы. Там ён прызнае сябе банкрутам, едзе ў Бельгію, дзе яго судзяць за махлярства.

У 1930-я Школьнікаў жыве ў Францыі. Ён пачынае старызнікам, але неўзабаве ізноў займаецца продажам тканіны, бізнес ідзе добра. Мендэль мяняе імя і становіцца Мішэлем.

Праўда, увесь час Мішэль мае праблемы з законам. Але яму шанцуе: ён не мае грамадзянства, таму яго не могуць дэпартаваць з краіны.

Сапраўдны ж росквіт у жыцці Школьнікава пачаўся неўзабаве пасля акупацыі Францыі Германіяй — ён наладзіў добры кантакт з нацыстамі. Яго галоўным кліентам стаў Нямецкі ваенна-марскі флот, якому Мішэль пастаўляў тканіну і прадукты харчавання.

У акупаванай Францыі Школьнікаў скупае за бесцань яўрэйскі бізнес і перапрадае яго немцам; часам ён нават здаваў канкурэнтаў у гестапа або накіроўваў паліцыю на нелегальныя склады канкурэнтў з таварам (за гэта атрымліваў частку тавару). У нейкі момант Школьнікаў зрабіўся адным з «каралёў» чорнага рынку ў акупаванай частцы Францыі, зарабіўшы столькі грошай, што стаў сур'ёзна ўкладваццa ў куплю самых дарагіх французскіх гатэляў на Рыўеры: «Луўр» і «Віндзор» у Манака, Le Plaza ў Ніцы, у Majestic у Экс-ле-Бэн, «Гранд Гатэлі» ў Біярыцы і ў Парыжы («Гранд гатэль дэ Пары»).

Ён скупляў усё: крамы, рэстараны, банкі, фірмы. У гэтым яму дапамагалі сябры-немцы — Школьнікаў пачынае фінансаваць СС.

Усцэлым, па розных ацэнках, багацце Школьнікава пад канец вайны склала каля 6 мільярдаў франкаў (прыкладна паўмільярда еўра па цяперашніх цэнах), жыў ён на вельмі шырокую нагу ва ўласным шале (кажуць, у яго гасцяваў нават Гімлер). Пад канец вайны ён пачаў паволі перамяшчаць грошы і бізнес у Іспанію. У маі 1944-га Школьнікаў узяў з сабой ювелірных упрыгожванняў на 800 мільёнаў франкаў і канчаткова з'ехаў туды.



17 чэрвеня 1945 года яго абгарэлы труп знайшлі недалёка ад Мадрыда ў спаленым аўтамабілі. П'ер Абрамовіч, біёграф Школьнікава, указваў на неадпаведнасці пры апазнанні цела, магіла на могілках Эль-Малар на самай справе — масавае пахаванне, а банкаўскі рахунак Школьнікава ў Буэнас-Айрэсе быў актыўны да 1958. На ўсялякі выпадак, у маі 1950 года французскі суд завочна прыгаворвае Мендэля Школьнікава да смяротнага пакарання.

*nn.by*

---

**Пётр Краўчанка,** былы міністр замежных спраў Беларусі:

**«Я пабываў у мінулую суботу ў Жораўцах у Асіповіцкім раёне, дзе адзначалася 156-гадовая гадавіна выдатнай беларускай патрыёткі Магдалены Радзівіл. Уявіце сабе, на беларускую справу яна аддала 50 кілаграмаў золата. Гэта больш за 2 мільёны даляраў. Без Магдалены Радзівіл не было б Беларусі. Яна спансаравала выданне „Нашай Нівы“, друкарню Марціна Кухты...."**

# У Беларусь прывезлі прах княгіні Магдалены Радзівіл

**Падчас VII З'езду беларусаў свету беларуская супольнасць Швейцарыі перадала парафіі святых Сымона і Алены прах княгіні Магдалены Радзівіл. Ва ўрачыстасці прыняў удзел пробашч парафіі ксёндз-магістар Уладзіслаў Завальнюк.**

Летась у ліпені князь Мацей Радзівіл у Мінску паведаміў, што праўнукі вядомай беларускай мецэнаткі, княгіні Магдалены Радзівіл пастанавілі перапахаваць яе цела ў Мінску — у касцёле святых Сымона і Алены, побач з якім яна жыла.

> Магдалена Радзівіл. **«Лічу сябе беларускай, паходжання літоўскага, як і муж мой, за польку сябе не прызнаю.»**

Цела Магдалены Радзівіл, а таксама яе адзінай дачкі былі пахаваныя ў швейцарскім горадзе Фрыбургу.

Сям'я звярнулася з гэтай ідэяй да арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, а таксама да пробашча Чырвонага касцёла ксяндза Уладзіслава Завальнюка, якія вельмі зычліва паставіліся да гэтай ідэі, тым больш, што ўжо раней у Чырвоным касцёле перапахавалі парэшткі фундатара касцёла Эдварда Вайніловіча і англійскага музыказнаўцы, даследчыка беларускай культуры Гая Пікарды.

*Антон Трафімовіч*



Магдалена Радзівіл

**PS.** Адкрыла беларускамоўныя школы ў сваіх уладаннях у Кухцічах, Уздзе, Каменцы. Яе маёнтак у Кухцічах (цяпер пас. Першамайск Уздзенскага раёна) наведвалі Вацлаў Іваноўскі, Іван Луцкевіч, Антон Луцкевіч, Раман Скірмунт, Аляксандр Уласаў і іншыя дзеячы беларускага нацыянальна-культурнага руху. Аказвала матэрыяльную падтрымку ў выданні першых кніг **Максіма Багдановіча, Канстанцыі Буйло** і інш.; у знак удзячнасці ёй Вацлаў Іваноўскі і Іван Луцкевіч змясцілі герб Завішаў «Лебедзь» на тытульным аркушы зборніка вершаў Максіма Багдановіча «Вянок».



**Даходны дом Абрампольскага ў Мінску, дзе Магдалена Радзівіл арандавала сем пакояў на першым паверсе.**

---

# Хто больш за ўсіх кіраваў Беларуссю?

## Казімір IV Ягелончык

**кіраваў Вялікім Княствам Літоўскім 52 гады**



Кіраваў Вялікім Княствам Літоўскім з 1440 па 1492 год

У часы Казіміра ВКЛ сягала ад Балтыйскага да Чорнага мора, мяжа з Масковіяй ляжала на ўсход ад Вязьмы і Бранску.

У 1468 годзе выдаў Судзебнік — першую спробу кадыфікацыі крымінальнага і працэсуальнага права.

Вярнуў у склад Вялікага Княства Валынь, Падолле і Дарагічынскую зямлю.

## Альгерд

**32 гады кіраваў Вялікім Княствам Літоўскім**



Кіраваў Вялікім Княствам Літоўскім з 1345 па 1377 год

За час свайго кіравання павялічыў тэрыторыю княства больш чым у два разы. На ўсходзе — да гарадоў Мсціслаў, Ржэў і Таропец, на поўдні — да прычарнаморскіх земляў.

Арганізаваў тры паходы на Маскву: у 1368, 1370 і 1372 гадах.

Старабеларуская мова стала мовай справаводства і княжскага двара ў Вялікім Княстве.

## Жыгімонт Ваза

**45 гадоў кіраваў Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім**



Кіраваў Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім з 1587 па 1632 год.

У выніку войнаў з Масковіяй вярнуў Смаленскую, Чарнігаўскую і Северскую зямлю ў склад Вялікага Княства.

Распачаў вайну са Швецыяй, якая цягнулася 29 гадоў.

Падтрымаў паходы Лжэдзмітрыя І і Лжэдзмітрыя ІІ на Маскву.

## Аляксандар Лукашэнка,

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, 23 гады ва ўладзе**



Кіруе Рэспублікай Беларусь з 1994 года па сёння.

Рэспубліка Беларусь мае межы, вызначаныя пасля Другой сусветнай вайны. Тэрыторыя дзяржавы 207,6 тысяч кв$^2$ — 13-я паводле велічыні ў Еўропе.

## Вітаўт Вялікі.

**38 гадоў ва ўладзе**



Кіраваў Вялікім Княствам Літоўскім з 1392 па 1430 год.

Маскоўскі цар Васіль І звяртаўся да Вітаўта ў граматах ***«Господин и отец мой»***, што сведчыла пра пратэктарат вялікага князя.

У час Грунвальдскай бітвы (1410) узначальваў літоўскія войскі (Полацкая, Віцебская, Гарадзенская, Пінская, Ваўкавыская, Лідская, Навагародская, Смаленская, Слонімская, Старадубская, Кіеўская, Мсціслаўская і інш. харугвы), якія былі асноўнай сілай у разгроме крыжакоў. Пасля гэтай перамогі паводле Мельнскай дамовы (1422) ВКЛ вярнула сабе Жамойць (тэрыторыя сённяшняй Літоўскай Рэспублікі).

Адстаяў права незалежнасць Вялікага Княства ад Польшчы.

За Вітаўтам ВКЛ дасягнула найбольшай магутнасці і памераў: ад Пскоўскай мяжы да Чорнага мора і ад Акі і Курска да Галічыны. З мэтай узмацніць міжнародны прэстыж дзяржавы і сваё становішча ён двойчы (у 1429 і 1430) рабіў захады і ўчыняў з'езды наймагутнейшых валадароў Еўропы, каб прыняць каралеўскі тытул і карону. Але польскія магнаты затрымалі імператарскіх паслоў, што везлі карону. Састарэлы Вітаўт не вытрымаў гэтага дыпламатычнага паражэння і памёр у Троках. Пахаваны ў Віленскім кафедральным касцёле.

■ Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрай-інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Ранейшыя ўрокі не пайшлі на карысць! Цяпер ужо прыйдзецца пасядзець у вязніцы!

Глыбоцкая міжрайінспекцыя сістэматычна інфармуе грамадзян аб пакараннях, якія выносяцца парушальнікам прыродаахоўнага заканадаўства. Нягледзячы на велізарныя штрафныя санкцыі, крымінальную адказнасць штотыдзень знаходзяцца «жадаючыя» парушыць закон, вось чарговыя прыклады.

У ноч з 4 на 5 мая 2017 года інспектарамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на вадасховішчы Аляксандрава Шаркоўшчынскага раёна былі затрыманыя двое братоў жыхароў в. Боўкалы, якія з ужываннем забароненых прылад рыбалоўства, лесачных сетак, здабылі 83 асобіны розных відаў рыбы. Будучы затрыманымі з доказамі на месцы злачынства – з рыбай, сеткамі – парушальнікі практычна адразу ж прызналі сваю віну, адзін з братоў раней у 2013 годзе ўжо затрымліваўся інспектарамі і быў судзімы за незаконную здабычу рыбы, але мабыць урок не пайшоў на карысць. Следчым камітэтам распачата крымінальная справа па ч. 1 арт. 281 КК Рэспублікі Беларусь «Незаконная здабыча рыбы». У ходзе папярэдняга расследавання віна затрыманых была цалкам даказаная. Судом Шаркоўшчынскага раёна вынесены суровы прысуд: адзін з братоў адправіцца ў калонію агульнага рэжыму тэрмінам на 1 год і 3 месяцы, другі прысуджаны да 1 году і 6 месяцаў пазбаўлення волі без накіравання ў ВПУ і штрафу.

4 чэрвеня 2017 года інспектарамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на сажалцы Сяменчыкі Глыбоцкага раёна за незаконную здабычу рыбы сеткамі затрыманыя двое жыхароў д. Ломашы Глыбоцкага раёна: Ларыёнаў Аляксандр Віктаравіч і Грыбоўскі Васіль Уладзіміравіч. Нягледзячы на тое, што рыбы здабыць яны не паспелі, суд вынес пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 20 базавых велічынь кожнаму або па 460 рублёў.

17 чэрвеня 2017 года інспектара на рацэ Галбея Пастаўскага раёна затрымалі мясцовага жыхара, Пачкоўскага Аляксандра Генадзьевіча, які ажыццяўляў здабычу рыбы сеткамі. Суд Пастаўскага раёна разгледзеў адміністрацыйны пратакол па ч. 1 арт. 15.35 КоАП Рэспублікі Беларусь «незаконная здабыча рыбы» і падвергнуў А. Г. Пачкоўскага штрафу ў памеры 20 базавых велічынь, што складае 460 рублёў, а таксама спагнанню з яго ў даход дзяржавы 345 рублёў у пакрыццё шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю.

30 чэрвеня 2017 года ізноў на сажалцы. в. Сяменчыкі Глыбоцкага раёна інспектары затрымалі двух грамадзян з сеткамі, рыбай і ракамі. Суд Глыбоцкага раёна вынес пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 22 базавых велічынь кожнаму або 506 рублёў і спагнанне шкоды, нанесенай прыродзе на суму 1 835 рублёў 63 капейкі (рашэнне суда яшчэ не ўступіла ў законную сілу) Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян не парушаць прыродаахоўнае заканадаўства.

Аб усіх вядомых і здзяйсняемых фактах парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефоны: 8-02156-5-59-80 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-4 645-66-78 МТС.

# Экіпіроўка школьніка ў Мінску будзе каштаваць бацькам ад Br175 да Br870

**У Мінску экіпіроўка школьнікаў малодшых класаў будзе каштаваць бацькам ад Br175 да Br735, старшакласнікаў - ад Br230 да Br870, паведамілі БЕЛТА ў галоўным упраўленні спажывецкага рынку Мінгарвыканкама.**

У гэту суму ўваходзяць швейныя і трыкатажныя вырабы, абутак, школьныя прылады. Шматдзетным сем'ям ва ўнівермагах сталіцы прадастаўляецца 10-працэнтная скідка на нехарчовыя тавары, у тым ліку школьнага асартыменту.

Пашыраны продаж тавараў для школьнікаў забяспечылі больш як 400 непрадуктовых і прадуктовых магазінаў. Для зручнасці пакупнікоў аформлены куткі для першакласнікаў, выдзелены дадатковыя гандлёвыя плошчы ў залах, забяспечаны гандаль на прылеглых тэрыторыях, арганізаваны школьныя базары.

На пляцоўцы ля Палаца спорту 19 і 20 жніўня з 10.00 да 18.00 пройдзе кірмаш "Пара ў школу!". У ім прымуць удзел універмагі, гандлёвыя арганізацыі, канцэрн "Беллегпрам". Будуць прадстаўлены адзенне, абутак, пісьмовыя і канцылярскія прылады, сумкі, ранцы, развіваючыя гульні, школьная атрыбутыка.

Прадпрыемствы-вытворцы прапануюць многія тавары са скідкай, запланаваны культурна-забаўляльныя мерапрыемствы, у тым ліку дэманстрацыя мадэлей адзення дзелавога стылю, акцыі з уручэннем падарункаў. Будзе арганізаваны прыём заказаў на падгонку адзення, набытага на кірмашы.

***БелТА.***



# Папярэджанне цеплатраўматызму пры эксплуатацыі энергетычнага абсталявання

■ А.Ю. Рацьковіч,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага Мра.*

Аналіз цеплатраўматызму паказвае, што няшчасныя выпадкі з'яўляюцца вынікам нізкага ўзроўню тэхналагічнай і вытворчай дысцыпліны персаналу; недастатковага ўзроўню практычнага навучання работнікаў бяспечным прыёмам працы; пагаршэння тэхнічнага стану энергаўстановак з-за парушэння правілаў эксплуатацыі; адсутнасці выразнай сістэмы кантролю і нагляду за вытворчасцю работ у энергаўстаноўках з боку службовых асоб энергаслужб прадпрыемстваў; невыканання тэхнікі бяспекі персаналам.

Для прадухілення выпадкаў цеплатраўматызму пры эксплуатацыі энергетычнага абсталявання кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый неабходна:

- няўхільна выконваць патрабаванні Правілаў тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі цеплавыкарыстальных установак і цеплавых сетак спажыўцоў;
- сачыць за ўкамплектаванасцю штатаў адпаведным цеплатэхнічным персаналам, які прайшоў інструктажы і праверку ведаў дзеючых правілаў, своечасова і ў поўным аб'ёме;
- усім кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый, незалежна ад формаў уласнасці і велічыні гадавога энергаспажывання, прызначыць адказных за цеплагаспадарку для арганізацыі непасрэднага выканання -функцый па эксплуатацыі энергаўстановак згодна патрабаванняў правілаў.
- абавязаць адказных за цеплагаспадарку дадаткова правесці абследаванне энергаўстановак на прадмет іх адпаведнасці ТКП 458-2012(02230) «Правілы тэхнічнай эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў» і ТКП 459-2012(02230) «Правілы тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў». Выяўленыя недахопы ўхіліць.
- укамплектаваць энергаслужбы прадпрыемстваў і арганізацый неабходным штатам цеплатэхнічнага персаналу для забеспячэння бяспечнай і надзейнай эксплуатацыі энергаўстановак.

Грамадзянам пры выяўленні якіх-небудзь парушэнняў у працы цеплаўстановак, вонкавых цеплавых сетак, у тым ліку ўцечак сеткавай вады, інтэнсіўных выпарэнняў, правалаў грунту, фактаў адсутнасці крышак на люках назіральных калодзежаў неабходна неадкладна паведамляць аб гэтым у дыспетчарскія службы адпаведных энергазабеспячальных арганізацый. Таксама не варта набліжацца да месца выпарэння, уцечкі вады, правалу грунту, спускацца ў адкрытыя цеплавыя камеры, калодзежы і т. п.; хадзіць па трубаправодах, канструкцыях і перакрыццях цеплавых сетак; пералазіць праз трубаправоды надземнай пракладкі ў месцах, не абсталяваных пераходнымі мосцікамі; пранікаць у памяшканні цэнтральных і індывідуальных цеплавых пунктаў, самастойна праводзіць рамонт цеплавыкарыстальнага абсталявання. Неабходна памятаць, што любы від энергіі пры няправільным яе выкарыстанні тоіць у сабе патэнцыйную небяспеку, з прычыны чаго пры эксплуатацыі энергетычнага абсталявання неабходна праяўляць абачлівасць і асцярожнасць.

# Следчы камітэт нагадвае аб неабходнасці ўстаноўкі дзіцячых замкоў бяспекі на вокнах

**Следчы камітэт Беларусі нагадвае аб неабходнасці ўстаноўкі дзіцячых замкоў бяспекі на вокнах. На гэту тэму звярнуў увагу ў ходзе прэс-канферэнцыі "Прафілактыка траўматызму і няшчасных выпадкаў у перыяд летніх канікулаў у дзяцей, пакінутых без догляду" начальнік аддзела інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта Сяргей Кабаковіч.**

*"Следчы камітэт пастаянна ўдзяляе ўвагу дзіцячаму траўматызму. Хоць мы і не з'яўляемся суб'ектам прафілактыкі, але высвятляем прычыны і ўмовы трагедыі. Зыходзячы з гэтага, уносім якія-небудзь прапановы і ініцыіруем змяненні ў заканадаўстве. Гэта ў пэўнай меры ў тым ліку і наша работа"*, – сказаў Сяргей Кабаковіч.



Як адзначыў прадстаўнік Следчага камітэта, ужо дзейнічаюць нормы, згодна з якімі ў вокны ўстанаўліваюцца дзіцячыя замкі бяспекі. *"Ініцыятыва з'явілася на аснове аналізу практыкі расследавання трагічных выпадкаў выпадання дзяцей з вокнаў у 2015-2016 гадах. Змяненні ў нормах былі зацверджаны і ўведзены ў дзеянне загадам Мінбудархітэктуры ў 2016 годзе. Імі ўстанаўліваецца, што ў вокнах жылых будынкаў, будынкаў і памяшканняў грамадскіх устаноў варта прадугледжваць дзіцячыя запорныя прыстасаванні, гэта значыць, дзіцячыя замкі бяспекі"*, – праінфармаваў Сяргей Кабаковіч. Пры распрацоўцы ініцыятывы выкарыстоўвалася і міжнародная практыка.

***БелТА.***

